# ГОЛАС ЦАРКВЫ

**РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ**

**Выдае Епархіяльная Управа Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Нью-Ёрку. Рэдагуе Калегія. Адрыс Рэдакцыі: "The Voice of the Church", 401 Atlantic Av., Brooklyn, N. Y., 11217**

**№ 35 КРАСАВІК — 1972 — APRIL ГОД. 18**

БОЖАЙ МІЛАСЪЦЮ
СЬВЯЧЭННЫ САБОР ЕПІСКАПАЎ
БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

*Да ўсечаснога Духавенства, Прападобнага **Манаства** і ўсіх Багалюбных вернікаў на чужыне й на **Бацькаўшчыне.***

## АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

*„Я Сьвятло сьвету; хто пойдзе за Мною, той ня будзе хадзіць у цемры"* Ян. 8. 12).

**ЛЮБЫЯ НАШЫЯ ДЗЕЦІ ДУХОЎНЫЯ!**

Вітаем Вас, нашым беларускім звычаем з Вялікім і Радасным Сьвятам УВАСКРОШАНЬНЯ ХРЫСТОВАГА. Як сонечнае сьвятло ўвясною ажыўляе замершую прыроду, так і Божае Сьвятло — Ўваскросшы Хрыстос Сваёю Ласкаю ажыўляе людзкія душы. У гэтае Вялікае Ўрачыстае Сьвята Сьвятая Царква прамаўляе да вернікаў на Сьветлай Ютрані: „Уваскрошаньня дзень урачыста прасьвятлімся . . ."

ХРЫСТОС УВАСКРОС! Уваскросла надзея чалавецтва! Закончана зьдзейсьненьне Ягоных найглыбейшых жаданьняў, бо Хрыстос ёсьць Усемагутным Сьвятлом сьвету, і хто йдзе за Ім, ня блудзіць у цемры, а мае сьвятло жыцьця.

Калі цемра пакрыла ўвесь сьвет, калі завеса царкоўная разарвалася напал, калі здавалася, што ўсё апанована злосьцю й нязгодай, калі варта стаяла каля апячатанага гробу і калі здавалася, што ніякая сіла ня мела магчымасьці адрабіць усё гэта, — Хрыстос, Збаўца Сьвету, уваскрос, перамагаючы сьмерць, грэх і зло на сьвеце.

Гэта й ёсьць найгалаўнейшая падзея з зямнога жыцьця Госпада: яна ёсьць асноваю нашае веры, доказам нашага будучага ўваскрошаньня. Таму Праваслаўная Царква й сьвяткуе гэты дзень, — ВЯЛІКДЗЕНЬ — прысьвечаны на ўспамін тае вялікае й слаўнае

© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

падзеі, асабліва ўрачыста, славячы Яго ў песьнях царкоўных з асабліваю выразнасьцю, што расчыняе ўсю важнасьць і значаньне Хрыстовага Уваскрошаньня, Адкупленьня.

Важнасьць сьвята Вялікадня й урачыстасьць царкоўных Багаслужбаў ды асаблівасьць Вялікоднага прывітаньня, заклікае нас да вышэйшай надземнай радасьці. Ці-ж ня радасна чуць на чужыне для нас, выгнанцаў з родных земляў, нашыя ўрачыстыя Багаслужбы й адчуваць, што й тут захавана нашая пабожнасьць, нашыя чароўныя абрады, Сьвятыя традыцыі, і як лагодна дзее на сэрца — ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Другою яваю нашае радасьці ёсьць тое, што Хрыстос Сваім Уваскрошаньнем і памершым запэўніў жыцьцё вечнае. Пра гэта сьветчаць словы: „Хрыстос уваскросшы з мертвых, сьмерцяю сьмерць паканаў, і тым, хто ў грабох, жыцьцё дараваў" — вось прычына тае радасьці. Усім людзям дадзена вечнае жыцьцё, бо пераможана праз Устаньне з гробу страшная сіла сьмерці. У гэтым была радасьць хрысьціянам. У гэтым каштоўнасьць і неперможныя скарбы веры нашае.

У каго чыстае сэрца й дух праведны, той і радуецца сапраўдную хрысьціянскаю радасьцю. Тая радасьць ня гэткая, як нашая жыцьцёвая радасьць, падобная да бурлівае віхуры, што захапляе нашае сэрца й аддаляе яго ад Бога, аслабляе душу, засмучае розум. Ад Сьвятое радасьці прабуджаецца нашая душа, прасьвятляецца розум, цела робіцца здольным стацца Царквою Сьвятога Духа.

І сьвяткуючы ў гэтым годзе Вялікоднае Сьвята, думайма пра ўваскрошаньне нашага народу. Будзем верыць, што надыйдзе час, і наш слаўны Народ узьнімецца ўва ўсёй сваёй славе, калі будзе адвалены камень, што прыцiскае яго й не дае яму падняцца. А каб адваліць той камень, мы мусім усе супольна, творча працаваць для сьветлае будучыні нашага народу. Няхай ня знойдуць паміж нас месца варожасьць, нялады й сваркі. „Хто кіруецца праўдаю, ідзе да сьвятла, каб відавочнымі былі ўчынкі ягоныя, бо яны ў Богу ўчыненыя". (Ян. 3, 21).

Любоў, згода й радасьць павінны ўваскроснуць! Таму сьвята Вялікадня для нас павінна быць ня толькі радасным успамінам пра споўненьне праз Госпада нашага Ісуса Хрыста абяцанага нам збаўленьня, але й вечным заклікам да самаўдасканаленьня.

Разбудоўвайма нашае царкоўна-рэлігійнае й культурна-нацыянальнае жыцьцё, захоўваючы братэрства й любоў у Хрысьце, заўсёды дбаючы адзін для аднаго й для ўсіх (І. Фес. 5, 15).

З гэткімі сьветлымі думкамі й жаданьнямі, вітаем вас Усечасное Духавенства, Прападобнае Манаства, Багалюбных Вернікаў, Кіраўцтва Брацтваў і Сястрыцтваў і Моладзь ды ўвесь Беларускі Народ з Вялікім Сьвятам ХРЫСТОВЫМ — ВЯЛІКАДНЕМ!

Супакой і Ласка Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца й Прычасьце Сьвятога Духа няхай будзе з усімі вамі. АМІН.

Дана Лета Божага 1972
месяца красавіка,
Амэрыка-Канада.

✠ Пакорны Архіепіскап АНДРЭЙ
✠ Пакорны Епіскап МІКАЛАЙ

*Высокадастойных Уладыкаў нашых*

*АРХІЕПІСКАПА АНДРЭЯ,*
*ЕПІСКАПА МІКАЛАЯ,*

*Пачэснае Сьвятарства, Дастойных Рэгентаў і Харыстых,*
*Парафіяльныя Рады, Брацтвы й Сястрыцтвы*
*Навуковыя й грамадзкія ўстановы, усіх вернікаў БАПЦарквы*
*і ўвесь Беларускі Народ на Бацькаўшчыне й на выгнаньні*

*ВІТАЕМ*

З РАДАСНЫМ СВЯТАМ ВЯЛІКАДНЯ

*ХРЫСТОС УВАСКРОС! — ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!*

**Епархіяльная Управа**

## 2-ГІ САБОР

Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Чужыне
адбудзецца 27, 28 і 29 травеня 1972 году
ў Парафіі Жыровіцкае Божае маці
9 Рывэр Рд. Гайлэнд Парк, Нью Джэрзі.
У саборы прымуць удзел Епіскапы, духавенства й выбраныя прадстаўнікі ад усіх парафіяў БАПЦарквы.

**На парадку дня:**

1. Прыняцьце Статуту БАПЦарквы.
2. Выбары Першагерарха.
3. Выбары Рады БАПЦарквы.

У нядзелю 28 травеня адбудзецца ўрачыстая Сьв. Літургія выбранага Першагерарха ў суслужэньні ўсяго духавенства, на якую запрашаюцца ўсе Беларусы да прыняцьця маліцьвенага ўдзелу ў гэтай гістарычнай падзеі нашае БАПЦ.

Заўвага: Месца Сабору, паданае ў папярэднім Паведамленьні, зьмененае

**Перадсаборная Камісія БАПЦарквы**





© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# ВАЖНЫЯ ГАДАВІНЫ У ГІСТОРЫІ БАПЦарквы

У мінулым годзе мы адзначалі гадавіну заснаваньня ў 1291 г. незалежнае Літоўскае (Беларускае) Мітраполіі з пасьвячэньня Канстантынопальскага Патрыярха.

У гэтым годзе прыпадае сумнае 200-лецьце акупацыі расейскімі войскамі усходняй часткі Літоўскае (Беларускае) дзяржавы, дзе Праваслаўная Царква была сілаю далучаная да Маскоўскае Сынадальнае Праваслаўнае Црквы. Канстантынопальскі Патрыярх не вызнаваў гэтае царкоўнае й неканан́ічнае расейскае акцыі, пра што сьведчаць выказваньні самых Патрыярхаў. Патрыярх Рыгор III у сваім „Томасе", выданым дня 13 кастрычніка 1924 году для Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (а сапраўды, Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Заходняе Беларусі) пісаў: „Першае адлучэньне ад Нашага Прастолу Кіеўскае Мітраполіі й Праваслаўных Мітраполіяў Літвы й Польшы, залежных ад яе, а таксама далучэньне іх да Сьв. Маскоўскае Царквы сталася зусім нязгодна з кананічнымі правіламі . . ."

Аб гэтым прыпамінае й сучасны Ўсяленскі Патрыярх Атэнагор у пісьме ад 24 чэрвеня 1970 году Мітрапаліту Пімену Круціцкаму, у якім гаворыцца пра няпраўнае наданьне Праваслаўнай Польскай Царкве аўтакефаліі 22-га чэрвеня 1948 году:

„У гэтым выпадку яна (Праваслаўная Расейская Царква — Рэд.) дзейнічала парушаючы правы свае юрысдыкцыі, бо Праваслаўная Польская Царква, улучаючы аднятыя ад яе па другой Сьвятовай вайне тэрыторыі Беларусі і Украіны, якія раней да яе былі прылучаны, ахоплівае прасьцяг тэрыторыяў на захад аж да Балтыцкага мора, якія ў даўныя часы **былі вонках тэрыторыяў Маскоўскай Патрыярхіі** (падкрэсьленьне нашае — Рэд.), а пад юрысдыкцыяй Ўсяленскага Патрыяршага Прастолу".

Такі стан паняволеньня Беларускае Царквы трываў да расейскае рэвалюцыі 1917 году. Абвешчаная 25 сакавіка 1918 году Беларуская Народная Рэспубліка за пэрыяд свайго кароткага йснаваньня ня здолела вырашыць рэлігійных праблемаў, і ў гэтай галіне панавала бескіраўнічае бязладзьдзе ваеннага часу. Тэрыторыя Беларусі акупавалася на зьмену, то Палякамі, то бальшавікамі. Рыскім пагадненьнем паміж Польшчаю й СССР, з 18 сакавіка 1921 году, Беларусь была падзеленая паміж гэтымі дзьвюма новымі палітычнымі дзяржавамі.

На Ўсходняй Беларусі 1 студзеня 1919 году была абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (БССР. Сталіца — Менск) у нахабна абкроеных межах. Рэлігійнае жыцьцё руйнавалася й цякло самапасам. Беларускае праваслаўнае грамадзтва выкарыстала скарыстаць прыгодны мамэнт, каб урэшце зрэалізаваць ідэю царкоўнай незалежнасьці, праз аднаўленьне сваёй Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Мітраполіі. І перад 50-ма гадамі 23 ліпеня 1922 году, склікаyы быў Епархіяльны Зьезд у Менску, на якім была адноўленая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква з Мітрапалітам Мэльхісэдэкам (Паеўскім) начале. На гэтым зьезьдзе адбылося таксама пасьвячэньне 3-х новых епіскапаў: Слуцкага Мікалая (Шэмецілу), Мазырскага Яна (Пашына) і Бабруйскага Філарэта (Раменскага), былога прафэсара Менскае Сэмінарыі. Такім чынам сталася поўнае аднаўленьне Герархіі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Савета-камуністычная ўлада паставілася супраць арганізацыі незалежнае Праваслаўнае Црквы ў Беларусі й павяла бязьлітаснае змаганьне, у выніку якога сам Мітрапаліт Мэльхісэдэк, усе епіскапы, бальшыня духавенства й тысячы вернікаў былі арыштаваныя й перадчасна загінулі, а сьвятыні зачыняліся й нішчыліся.



У Заходняй Беларусі пад акупацыяй Польшчы апынуліся Епархіі: Віленская, Гарадзенская й Палеская. Агулам у гэтых епархіях знаходзілася пад тысячу парафіяльных цэркваў і восем манастыроў. Больш за 100 праваслаўных цэркваў было адабрана польскаю акупацыйнаю ўладаю пад каталіцкія касьцёлы. Напачатку юрыдычнае палажэньне Праваслаўнае Царквы ў новапаўсталай Польскай Рэспубліцы ня было ўнармавана ніякім дзяржаўным законам. Толькі ў 1922 годзе былі выданыя гэтак званыя „Часовыя правілы адносінаў Ураду да Праваслаўнае Царквы ў Польшчы", падпісаныя міністрам адукацыі. Але тыя „Часовыя правілы" ня служылі для карысьці й разьвіцьця Праваслаўнае Царквы. Пазьней польскі ўрад разам з Праваслаўнымі Епіскапамі чыніў стараньні перад Канстантынопальскім Патрыярхам дзеля арганізацыі Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Патрыярх Рыгор III, „Томасам" ад 13 лістапада 1924 году зацьвердзіў гэтую новую аўтакефалію. Царква была ўзначаленая Мітрапалітам Дыянізым (Валедзінскім), і складалася з 5-цёх епархіяў: Віленскае, Гарадзенскае, Палескае, Варшаўска-Холмскае й Валынскае. Зразумела, што фактычна гэтая новая Праваслаўная Аўтакефальная Царквы ў Польшчы была адноўленай часткай старой Літоўскай (Беларускай) Наваградзка-Віленскай Мітраполіі, што й было падкрэслена Патрыярхам Грыгорам у выданым „Томасе".

Калі ў пачатку 2-ое Сусьветнае вайны, паводля ўмовы Савецкага Саюзу з Гітлераўскай Нямеччынай, тэрыторыя Беларусі была спалучана, дык Польская Аўтакефальная Праваслаўная Царква засталася з вельмі малою колькасьцяй парафіяў.

Калі-ж у выніку неспадзяванае атакі на Савецкі Саюз, у чэрвені 1941 году, тэрыторыя Беларусі была занятая Немцамі, дык устаноўленая цывільная ўлада Генэральнага Камісарыяту Беларусі не перашкаджала ў рэлігійным жыцьці народу. Таму з самага пачатку акупацыі амаль нармальна адбываліся Божыя службы ў заходніх епархіях Беларусі, а ў Усходняй частцы пачалі аднаўляцца паліквідаваныя парафіі, прыводзіліся да належнага выгляду ўцалелыя храмы Божыя.

Ужо ў верасьні 1941 году Мітрапаліт Панцелейман і Епіскап Бенэдыкт, з дазволу нямецкіх уладаў, пачалі арганізаваць Беларускую Праваслаўную Царкву. Заходзіла патрэба павялічэньня епіскапскага складу. Беларускі Нацыянальны Камітэт у Варшаве пачаў перамовы з Мітрапалітам Дыянізым аб кандыдатах на епіскапаў для Беларусі. Такімі кандыдатамі былі архімандрыты беларускага паходжаньня Філафей (Нарко) й Апанас (Мартос), якія пазьней выехалі ў Жыровічы да Мітрапаліта Панцелеймана й былі хіратанізаваныя на епіскапаў: Філафей — 23 лістапада 1941 г. на Епіскапа Слуцкага, і Апанас — 8-га сакавіка 1942 г. на Епіскапа Віцебскага й Полацкага.

Беларускае духавенства й грамадзтва дабівалася ад нямецкіх уладаў дазволу на скліканьне Усебеларускага Сабору Праваслаўнае Царквы, для афіцыйнага прагалошаньня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Такі Сабор адбыўся ў часе з 30-га жніўня па 2-га верасьня 1942 году ў Прачысьценскім Саборы жаночага манастыра ў Менску. На Саборы была прагалошана Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква з прыняцьцем Статуту. У гэтым годзе прыпадаюць 30-ыя ўгодкі гэтае гістарычнае падзеі.



© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

Улетку 1944 году пачаўся паваротны наступ Савецкае арміі, і тэрыторыя Беларусі зноў апынулася пад камуністычнай бязбожнай уладай. Шматлікае духавенства й вернікі зноў былі арыштаваны й вывозіліся з Беларусі ў далёкія ўсходнія раёны Савецкага Саюзу на цяжкую лягерную працу. На Беларусі зараз-жа ўзнавілася бурэньне й нішчэньне адноўленых сьвятыняў.

Перад наступам Саветаў, Епіскапства з Мітрапалітам Панцелейманам было эвакуавана ў Нямеччыну, дзе ў той час знаходзілася шмат тысячаў вывезеных на прымусовую працу Беларусаў. Частка іх, пасьля капітуляцыі Нямеччыны, вярнулася на Бацькаўшчыну, а іншыя, пазнаўшыя камунізм, засталіся ў Заходняй Нямеччыне й іншых краінах Заходняе Эўропы. Згуртаваныя ў лягерох ДП, яны пачалі закладаць свае нацыянальныя парафіі, сярод іх і парафіі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. У 1946 годзе была пабудавана й высьвячаная новая беларуская Царква Сьв. Ефрасіньні Полацкае ў горадзе Рэгенсбургу. Яна служыла довадам глыбокае веры й ахвярнасьці праваслаўных эмігрантаў-Беларусаў. І вельмі шкада, што гэная гістарычная памятка БАПЦарквы з пераходам герархаў у юрысдыкцыю Расейскае Зарубежнае Царквы была імі прададзеная. Калі ў пачатку травеня 1946 году Епіскапы БАПЦарквы самачынна перайшлі да Расейскае царквы, нацыянальна-патрыятычнае духавенства й вернікі БАПЦ не пайшлі за герархамі, а пачалі шукаць выхаду з гэтага бяспрыкладнага ў гісторыі выпадку асіраценьня. Трэба было шукаць епіскапа, які-б пераняў кіравецтва парафіямі БАПЦ. На захады духавенства й вернікаў БАПЦ, Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква адпусьціла Епіскапа Сяргея, які 5-га чэрвеня 1948 г. на скліканым у Канстанцы Саборы БАПЦ, пераняў гэтае кіравецтва. 19-га сьнежня 1948 году ў горадзе Розэнгайме быў хіратанізаваны Архімандрыт Васіль (Тамашчык) на другога епіскапа БАПЦарквы. У тым часе пачалася была масавая эміграцыі Беларусаў у розныя краіны вольнага сьвету. За імі паехалі й епіскапы: Архіепіскап Сяргей у Аўстралію, а Епіскап Васіль у ЗША. У краінах свайго расьсяленьня Беларусы гуртаваліся й пачалі тварыць парафіі свае БАПЦарквы. У вольным сьвеце праваслаўныя маюць свае незалежныя юрысдыкцыі, а сярод іх і нашая БАПЦарква, як пераемніца й прадаўжальніца гістарычнае Літоўскае Мітраполіі.

7-га лютага 1961 году Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква была залегалізаваная спэцыяльным Актам, параграф 18, як дапаўненьне права рэлігійных карпарацыяў, разьдзелаў: 336, 337, 338, 339 у Асамблеі штату Нью-Ёрк, і зацьверджана Губэрнатарам.

У 1968 годзе былі хіратанізаваныя ў Епіскапы: 15 лютага 1968 году Архімандрыт Андрэй (Крыт) і 10 сакавіка 1968 г. Архімандрыт Мікалай (Мацукевіч).

З Волі Божае адыйшлі ў Вечнасьць адраджэнцы БАПЦарквы на Чужыне — Архіепіскап Васіль, 9-га чэрвеня 1970 году, і Першагерарх Архіепіскап Сяргей, 2-га кастрычніка 1971 году.

Цяпер БАПЦарква, парафіі якое знаходзяцца ў Амэрыцы, Канадзе, Англіі, Бэльгіі й Аўстраліі, кіруецца Архіепіскапам Андрэем, які мае сядзібу ў Кліўлендзе (штат Огаё). Пад канец траўня сёлета зьбярэцца Сабор БАПЦарквы на якім будзе выбраны Першагерарх і разглядзяцца іншыя праблемы Царквы.

**а. Васіль Кендыш**

---



# СЬВЯТАЯ АФРАСІНЬНЯ - ПРАДСЛАВА

**Пытаньне ейнага імя й абраза**

Сьвятая Афрасіньня пакінула па сабе дзьве неацаненыя памяткі: ейны слаўны крыж і Спасаўская Царква ў Полацку.

Паводля сьветчаньня Л. Алексеева — аўтара кнігі ,,Полацкая Зямля" (1966, Масква) — Крыж быў у Полацку да 1928 году, а потым быў перавезены ў Менскі музэй; потым зьнік, якім чынам і калі — ніхто ня знае. Напіс на Крыжы пачынаецца гэткім сказам:

,,В лето 6669 покладаеть Офросінья чьстьный крест в манастыри своемь в церкви Святого Спаса".

Лета 6669 гэта лета 1161-ае нашае эры. Як ведама, пісьменнасьць нашая пачыналася на грунце мовы славянскай. Аднак, ужо ў той час азнакі нашае сучаснае мовы, а таксама акцэнтацыя ўжо моцна вызначалася: у словах ,,манастыри" — аканьне, ,,покладаеть" — як самое слова так і характэрны ў нашай мове дзеяслоўны канчатак ,,ець". Бязумоўна й слова ,,Офросінья" вымаўлялася як — Афрасіньня, — як і ў цяперашняй мове, — Аўгіньня, Аксіньня, з невялікім падоўжаньнем мяккога — Н. На Бацькаўшчыне пішуць — Ефрасіньня, а Расейцы — Еўфрасіньня. Гэтак-жа пачалі пісаць і некаторыя нашыя на эміграцыі. Але, трымаючыся законаў свае мовы, як на пісьме, так і ў вымове, трэба называць пасваему — Афрасіньня, — як напэўна яна сама сябе называла ў мове вуснай.
Імя-ж — Еўфрасіньня — у нашай мове зусім няма. У беларускіх іменьнях пачатнае — Е — нясвомае нашай мове. Натуральна, што й А. Каханоўскі, чытаючы свой даклад пра крыж Афрасіньні у Кліўлендзе), называў яе — Афрасіньня.

Дата нараджэньня Прадславы-Афрасіньні дакладна няведамая, прыпушчальна — між 1105 і 1110 гадамі. Дата сьмерці — 1167 год. Да глыбокай старасьці не дажыла. І калі адважылася на падарож, як паломніца, у Ерусалім, то пэўна яшчэ мела сілу. Аднак, у Ерусаліме прыняла сьмерць, падобна на ейнае жаданьне па малітве.

Дакладных вестак няма й пра ейных бацькоў. Імя бацькі было Юры. Гэта было хрысьціянскае імя аднаго з сыноў Усяслава Вялікага, найпраўдападабней аднаго з двух маладзейшых — Сьвятаслава ці Расьціслава, бо апрача іх было яшчэ пяць: Давыд, Раман, Глеб, Барыс, Рагвалод.

Маці Соф'я — цароўна з роду царгародзкай дынастыі Комнэнаў. Як відаць, зносіны Полацку з Візантыяй былі ўсталеныя, але як адбываліся, якімі дарогамі, аб гэтым мала вестак.

Неверагодна, каб ня было дакладных жыцьцяпісаў Сьв. Афрасіньні, напісаных ейнымі сучасьнікамі. І ёсьць напамінкі, што іх было некалькі. Пэўне, мусілі быць і рукапісы Сьв. Афрасіньні. Нажаль, — гэта то ўжо ведамы гістарычны факт, — Маскоўскі цар Іван Грозны, заваяваўшы Полацак, у часе рабунку маемасьці, спаліў аграмадныя, як на той час, кнігазборы ў Полацку, а частку забраў ў Маскву. Невядома, ці што з гэтага захавалася, бо ў свае сховішчы Расейцы нерасейцаў недапускаюць.

У пазьнейшых жыцьцяпісах, падкрэсьліваецца дзявочая прыгажосьць Прадславы. Таму жыцьцяпісцы навет падзіўляюцца, што яна зраклася магчымых жыцьцёвых раскошаў і падалася ў манастыр, дзе была ігуменяй ейная цётка, удава па князю Раману, сыну Усяслававым.

Адзначаюцца ў жыцьцяпісах ейныя не па ўзросьце разьвіцьцё й розум і схільнасьць да чытаньня кніг, перадусім рэлігійных хрысьціянскіх, а й сьвецкіх, дастаўваных з Грэцыі.



© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

Зь яе-ж дзейнасьці высьвятляецца ,што мела розум сьветлы, шмат энэргіі й сілу волі. Таму й бацькі не маглі моцна супярэчыць ёй, калі спрабавалі адмаўляць ад манастырскага жыцьця. Аднак у манастыры яна ня стала затворніцай. І запаветы Хрыста успрыняла належна, што не ў шматслоўі маліцьвеным і затворніцтве служэньне Богу, а ў шчырых малітвах, у любові да бліжняга і ў рупнай дзейнасьці на помач бліжняму. Была яна заўсёды ў працы, у руху. А працы было шмат: і ручной рознага характару, а перадусім перапісваньне кніг ды, пэўна, й свае розныя запісы, і дбаласьць для ўспамогі бедным, а найважнейшае — будова сьвятыняў. Памятак гэтых магло-б быць шмат, але ўсё гэта пераважна зьнішчана, або дасюль ня выкрытае.

Паўторнае зьнішчэньне, як беларускага дойлідзтва, так іншых гістарычных, а перадусім царкоўных памятак, адбылося ўжо за нашых часаў. Дзе дзеўся Крыж Афрасіньні — невядома. Дзе дзеліся будоўлі старых цэркваў і манастыроў — гэта людзі ведаюць: царкоўная маемасьць аграбленая, а будынкі ляглі ў грузах. Здавалася-б, цяжка паверыць, што ў нашыя часы, ды ўсё-ж, у цывілізаванай краіне, адбыліся такія рабункі й зьнішчэньні, што пэўна й Батый таго не рабіў. Ды дзеялася-ж гэтае не ў ваенныя часы.

Адна памятка працы Сьв. Афрасіньні захавалася, як сьветчаньне ейнае вялікае дзейнасьці, дбаласьці й грунтоўнасьці работы. Гэта Спасаўская Царква ў былым Полацкім манастыры, які сама яна заснавала й які быў месцам ейнага сталага пражываньня. Царкву будаваў мясцовы дойлід Ян, назаказ самой Афрасіньні. Гаворачы пра тагачаснае полацка-віцебскае будаўніцтва цэркваў, дацэнт Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту Мікола Шчакаціхін у сваёй кнізе ,,Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва (Менск, 1928 г.) піша: ,,Усе яны (Цэрквы — рэд.) складаюць адну суцэльную групу, якая характарызуе полацка-віцебскае будаўніцтва пэўнага часу, які замыкаецца ў межы другое паловы XII сталецьця, калі ў Полацку й былі утвораныя найбольш выдатныя й арыгінальныя ўзоры свайго ўласнага й шмат у чым зусім асаблівага архітэктурнага стылю. З ліку гэтых узораў на першым месцы трэба, бязумоўна, паставіць Спасаўскую Царкву ў былым Ефрасіньнеўскім манастыры, якая адна захавалася ў больш-менш суцэльным відзе да нашага часу''.

Трэба адцеміць, што паводля некаторых дадзеных з жыцьцяпісаўСьв. Афрасіньні, гэтая царква збудаваная яшчэ ў першай палове 12-га веку.

У Царкве захаваліся на сьценах фрэскі-партрэты самой Афрасіньні. Па гэтых фрэсках цяжка ўсталіць дакладны абраз Сьвятое, калі ўзяць на ўвагу тое, што адбіткі фрэскавыя маглі быць робленыя ў розныя часы, а партрэты маляваныя рознымі мастакамі. Цяпер гісторыкі й археалёгі адкрываюць гэтыя фрэскі з-пад пластоў пазьнейшага тынку. Адкрыта ўжо некалькі, хоць-жа сярод іх могуць быць абразы й не самой Афрасіньні.

Нам ведамыя здымкі з фрэсак: адзін зьмешчаны ў часапісе ,,Маладосьць № 7 за 1969 год у артыкуле Алексеева ,,Крыж Ефрасіньні Полацкай'', чатыры зьмешчаныя ў часапісе ,,Помнікі гісторыі й культуры Беларусі'' у № 1-ым, за 1970 г., у артыкуле Штыхава ,,Полацкія фрэскі 12-га стагодзьдзя'', і адзін у кнізе Л. Алексеева ,,Полацкая зямля''. Москва, 1966 (у расейскай мове).

Нажаль, здымкаў, зьмешчаных у часапісе ,,Помнікі гісторыі й культуры Беларусі'', сярод якіх, як відаць, і здымкі зьмешчаныя у ўспомненых ,,Маладосьці'' і ў ,,Полацкай зямлі'', бадай, нельга браць пад разгляд, бо





Здымак — 1.

яны моцна зрэтушаваныя пры выданьні часапісу і, магчыма, прыглумленьня.

Сьпярша варта застанавіцца над здымкам фрэскі (пад лічбай — I) які быў зьмешчаны ў ,,Маладосьці''. Пад здымкам напіс: ,,А гэта Ефрасіньня Полацкая. Нябывалая зьява ў мастацтве таго часу — мастак намаляваў жывога чалавека''. Называючы гэтую зьяву небывалай, Л. Аляксееў, відаць, меў на думцы, што малюнак зроблены не ў іканапісным стылі, а на гэтай фрэсцы дадзены дакладны патрэт жывой асобы. Запраўды, з фрэскі, хоць яна й ня досыць выразная, відаць аблічча прыгожай, маладой жанчыны, з яснымі, вясёлымі, жыцьцярадаснымі вачыма, якой нельга даць больш за 30-35 год. З гэтага можна меркаваць, што Спасаўская Царква была ўжо выбудаваная дзесь каля 1140 году.

У кнізе Л. Аляксеева зьмешчаны здымак фрэскі з подпісам: ,,Фрэска з Спасскага сабору Еўфрасіньнеўскага манастыра ў Полацку, XII в.'', (пад лічбай — 2). Зьмешчаны гэты здымак у кнізе Аляксеева, як ілюстрацыя да слоў: ,,Мастацтва даўнейшых жывапісцаў яшчэ нядаўна магло быць вывучана з бльшай дакладнасьцяй. Цяпер-жа, за зьнікненьнем апошніх бельчыцкіх будоўляў і віцебскага Благавешчаньня, толькі царква Афрасіньні Полацкай яшчэ захоўвае пад пазьнейшымі запісамі страдаўныя каштоўныя для нас адтварэньні вельмі высокае клясы''. Гэты здымак косы, відочна фрэска была ўмешчаная на выгнутай паверхні. Аднак, калі глядзець пад пэўным кутом — ад правай нашай рукі налева, — а тым балей, праз лупу,тады высьвятляецца нармальнае прыгожае аблічча; на ім лагодная задуменасьць і велічнасьць. Гэта малюнак іканапіснага Бізантыйскага стылю, ды асобы ўжо паджылай. Аднак-жа, параўноўваючы гэтыя два здымкі, заўважаецца падабенства ў рысах твару. Лепшаму параўнаньню перашкаджае пляма на вуснах другога здымку. І ўсё-ж, так выглядае, што гэта партрэты сьв. Афрасіньні, магчыма зробленыя ў розныя часы ці рознымі мастакамі,

Калі ўзяць на ўвагу жыцьцяпісныя апавяданьні пра ейнае сталае служэньне Богу й бліжняму з раньняй маладосьці праз ўсё жыцьцё, ейную цьвёрдасьць веры ды імклівасьць у выкананьні задумаў і пастановаў, велічнасьць духовую з прыгожасьцю фізычнаю, — то ўсё гэта на пададзеным адбітку з фрэскі выразна выяўляецца.

З ранейшых абразоў, зблiжаны, прынамся, у вонкавых абрысах твару — абраз выкананьня слыннага расейскага мастака-іконапісца Васьнецова.



© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014

Для БАПЦарквы вельмі важным і прыгожым чынам было-б прыдбаньне праўдзівага абраза Сьвятой Афрасіньні-Прадславы й аднолькавага для ўсіх парафіяльных цэркваў.

Вялікая дачка народу нашага, сьвятая ў цэрквах і праваслаўнай і каталіцкай, можна сказаць — Хрышчоная Маці Беларусаў, — Яна дастойная належнага ўшанаваньня.



**Здымак — 2.**

**Фрэска з Спасаўскага Сабору Афрасіньнеўскага манастыра, XII веку.**

**М-ч.**



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# УРАЧЫСТАСЬЦЬ ДНЯ ПЕРАМОГІ ПРАВАСЛАУЯ У КЛІУЛЕНЬДЗЕ

У першую нядзелю Вялікага Посту Сьв. Праваслаўная Царква кажны год урачыста адзначае „Дзень Перамогі Праваслаўя". Запачаткавана сьвяткаваньне было ў Грэцыі. Ужо на самым пачатку хрысьціянства навука Хрыста здабыла добры грунт у Грэцыі, які падгатавалі даўныя грэцкія філёзафы: Сакрат, Плятон, Арыстоцель ды іншыя. Таму й Хрыстовая Навука ў Грэцыі напачатку пранікла да сэрца людзей высокага розуму.

Але, як толькі пачало пашырацца Сьвятло Навукі, зараз-жа паўсталі супраціў ворагаў яе. Супраціў быў моцны, бо начале яго былі імпэратары, вяльможы і ўсе тыя, каму была няпрыемная праўда Божая, узаемная любоў і пашана да кажнага чалавека, бо ўсе людзі роўныя, усе дзеці Божыя, а таму ўсякая няпраўда, прымус, зьдзек і крыўда ёсьць вялікім грэхам.

З гэтым не маглі пагадзіцца зямныя ўладары, а таму пачалі жорстка сьцігаць хрысьціянаў, ды праліваць рэчкі крыві мучанікаў. Аднак надарэмна, бо пралітая кроў яшчэ больш узмацняла Веру Хрыстовую, якая пачала пранікаць і ў палацы князёў і вяльможаў, якія шукалі Сьвятла й мэты жыцьця.

Сьвятло гэтае трапіла й да душы царыцы Феадоры, якая пад уплывам Канстантынопальскага Патрыярха Мэфодыя сталася хрысьціянкаю і ў 842 годзе склікала Сабор ў Канстантынопалі, на якім было пастаноўлена спыніць перасьлед хрысьціян, узнавіць шанаваньне іконаў, і кажны год урачыста сьвяткаваць перамогу Праваслаўя ў першую нядзелю Вялікага Посту.

З Грэцыі абрад перамогі Праваслаўя перайшоў разам з хрысьціянствам на нашыя Беларускія землі, дзе быў успрыняты нашым народам. Абрад гэты прынесены нашымі выгнанцамі й на эміграцыю, дзе кажны год у гэты дзень узносяцца шчырыя малітвы перад Іконамі.

---

Парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе супольна з суседнімі ўкраінскімі й сэрбскімі парафіямі, кажны год адзначае гэтае сьвята пачарзе ў кажнай царкве. У гэтым годзе ,дня 27-га лютага, урачыстая Багаслужба адбылася ў нашай царкве.

За паўгадзіны перад вызначаным часам на Багаслужбу, царква ўжо была па берагі напоўнена маленьнікамі. Вочы ўсіх былі скіраваныя да алтара, бо там так сама сабралася шмат духавенства; сярод якога быў пратаерэй Леў Опока, ранейшы прыяцель Уладыкі Андрэя яшчэ з Англіі, пратаерэй Сьцяпан Ганкевіч, пратаерэй Хведар Каваленка, а. Максім Ганчор, протапрасьвіцер Бранко Кусовіч, пратаерэй Аляксандар Родэнковіч, Радаслаў Філіповіч і дыякан Міхась Страпко.

Роўна а гадзіне 5-тай Сьвятыя дзьверы адчыніліся і Уладыка Андрэй у асысьце ўспомненага духавенства асьвяціў пачатак Вячэрні спэцыяльна прысьвечанай „Дню Перамогі Праваслаўя". Царкоўна-парафіяльны хор пад кіравецтвам рэгента Кіслага будзіў малітоўны настрой.

Пасьля выхаду з Эвангельлем, глыбока зьмястоўнае казаньне прапаведзь на тэму дня ўрачыстасьці выгаласіў прат. Хведар Каваленка ў украінскай мове, а. прат. Сьцяпан Ганковіч у ангельскай мове.

Асабліва ўрачысты быў мамэнт, калі ў часе сьпеву трапара — „Прачыстаму Твайму вобразу пакланяемся Добры" — ўсё духавенства з іко-



© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

намі выйшла з алтара й да людзей быў прачытаны „СЫНОДЫКАН” (пастановы Ўсяленскага Сабору) наступнага зьместу: **„Як вызнавалі пракрокі, як навучалі Апосталы, як успрыняла Царква, як здагматызавалі настаўнікі, як прызнала Ўсяленная, — як выявілася міласьць, — як выкрылася сапраўднасьць, — як разьвеялася няпраўда, — як было выяўлена прамудрасьцю, — ды як Хрыстос учыніў быць дастойнымі, — ТАК І МЫ заяўляем, сьцьвярджаем і выспаведаем Хрыста, як нашага сапраўднага Бога, — а Сьвятых Яго ўшаноўваем словамі, малітвамі, службамі ды міласьцямі ў цэрквах і перад Сьвятымі Іхнымі Іконамі, Хрысту пакланяемся, як Богу Госпаду нашаму, — а Яго Сьвятых, як праўдзівых слугаў, дастойна шануем і славім.**

**Гэта ёсьць вера Апосталаў, гэта вера Айцоў Царквы, гэта ёсьць вера Праваслаўная, гэта ёсьць вера, што сьцьвярдзіла й асьвяціла Ўсяленную”. Амін.**

Пры заканчэньні Вячэрні ў часе сьпеву Вялікапосных трапароў з зямнымі паклонамі, протапрасьвіцер Бранко Кусовіч прагаласіў малітву Ефрэма Сірына. Уладыка Андрэй удзяліў дабраславенства, а. дыякан Міхась Страпко прагаласіў Многалецьце для духавенства, прэзыдэнта, прычту, парафіянам і ўсяму Беларускаму, Украінскаму і Сэрбскаму Народам.

Пасьля Багаслужбы ўсе былі запрошаны на супольную вячэру, якую прыгатавалі сябры й сяброўкі Прафіяльнае Рады ў Царкоўнай залі.

На вячэры прысутнічала больш ста асоб. Застольная бяседа адбывалася ў вельмі мілым і сяброўскім супольстве. Прамаўлялі ў часе вячэры пратаерэй а. Каваленка — ад імя Ўкраінцаў, прат. а. Раданковіч — ад Сэрбаў і Ўладыка Андрэй.

А.

## КУПЯЦІЦКАЯ ЦУДАТВОРНАЯ ІКОНА БОЖАЕ МАЦІ

Купяціцкая Ікона Богамацеры свой назоў атрымала ад мясцовасьці Купяцічы, Пінскага павету, каля рэчкі Ясельды. Зьявіўся гэты абраз у 1182 г. Дзяўчына Ганна, пасучы жывёлу свайго бацькі Васіля, заўважыла аднаго разу паміж дрэвамі нейкі надзвычайны сьвет; падыйшоўшы ўбачыла, што гэты сьвет між дрэваў зыходзіць ад невялікага крыжа з абразом Божае Маці, які вісеў на дрэве. Зьняўшы крыж, Ганна занясла яго дамоў, схавала й вярнулася назад да жывёлы. Але на тым месцы яна зноў убачыла зьзяньне і, падышоўшы, убачыла крыж. Думаючы, што гэта другі крыж, яна з радасьцю павесіла яго сабе на грудзі. Увечары, прыгнаўшы дамоў статак, яна хацела паказаць бацьку крыж, але аказалася, што крыжа на ёй ня было. Тады яна сказала, што ў яе ёсьць другі такі-ж крыж, і пайшла яго прынесьці, але не знайшло й таго крыжа. Тады Ганна расказала бацьку як яна знайшла крыжы, і пасьля пайшла разам з бацькам да таго месца, дзе яна знайшла абодва крыжы. Зблізжаючыся да гэтага месца, яны ўбачылі ў сьвятле на дрэве крыж з вобразам Богамацеры. Яны ўзялі яго з сабою й прынесьлі дадому, але на другі дзень ізноў яго не аказалася. Васіль расказаў аб гэтым здарэньні сваім аднасельцам; яны пайшлі на паказанае месца й знайшлі на тым-жа дрэве крыж, ад якога зыходзіла надзвычайнае зьзяньне. Ня важачыся ўжо пераносіць крыж з гэтага месца, яны пабудавалі там дрыўляную царкву, у якой паставілі знойдзены крыж зь іконай Богамацеры. З таго часу гэтая ікона праславілася цудатварэньнямі.



Праз некаторы час Купяціцкая царква была спалена татарамі. Цудатворны абраз упаў на зямлю й ляжаў пакрыты попелам. Адзін падарожнік, на імя Якім, праходзячы каля месца былое царквы, зьдзіўлены быў сьветам, што зыходзіў з зямлі. Падышоўшы бліжэй, ён убачыў ляжачы крыж на попеле. Не адважыўшыся ўзяць яго, Якім паведаміў аб гэтым жыхаром Купяцічаў. Прышоўшы са сваім сьвятаром, жыхары з радасьцю апазналі цудатворны Купяціцкі абраз Валадаркі Нябеснае й з належнаю чэсьцю ўзялі сьвятыню, якая была зусім непашкоджана агнём. На месцы спаленае царквы жыхары пабудавалі новую, а Якім застаўся панамаром яе.

У 1629 годзе пры Купяціцкай царкве быў заснаваны мужчынскі манастыр. Купяціцкая ікона заставалася ў Купяцічах да таго часу, пакуль тамтэйшы манастыр належаў да праваслаўных. Калі-ж у другой палавіне 17 стагодзьдзя гэтым манастыром завалодалі бэнадыктынскія, а пазьней вуніяцкія манахі, тады праваслаўныя перанесьлі сьв. ікону ў 1657 годзе ў Кіеў, дзе яна была пастаўлена ў Сафійскім саборы. Твораныя ад гэтае сьв. іконы цуды апісаныя былі на ўкраінскай мове на сьценах.

Пры абнаўленьні Кіевасафійскага сабору ўсе гэтыя напісы былі павыціраныя.

Сьвята Купяціцкае Цудатворнае Іконы Богамацеры — 28 лістапада.

## ПАД ВЯЛІКОДНУЮ НОЧ

Дома застаюцца толькі малыя й старыя . . . Усе сьпяшаюцца ў Царкву, каб пачуць прыгожасьць Багаслужбы, прызначанае на Гэтую Вялікодную Ноч . . . Зоркі прыцьмянна зьзяюць у нябесных высотах. Тыя зоркі, што прывялі мудрацоў на паклон, да калыскі народжанага Богачалавека. У гэтую ноч Ягонае цела амярцьвелае, укрыжаванае пад скогат галасоў разьюшанага людзкога натоўпу. Усе пакінулі Хрыста. Роспач і страх апанаваў слабых, духова-малаверных. І толькі моцныя духам вучні Ісуса Хрыста ды невялічкая грамадка Ягоных сяброў, усе тыя, чые сэрцы палымнеюць нязгаснаю вераю, пераконаны ў няўміручасьць Хрыста, Бога і Чалавека, і верацЬ у Ягонае Паўстаньне з мертвых.

І Яно прыйшло. Хрыстос Уваскрос. На трэйці дзень Жыцьцё перамагло сьмерць, Вера, зьняверанье, смутак абярнуліся ў радасьць. Уваскрашэньне Ісуса Хрыста прышло ў зьзяньні сьвятла новага дня, што паўстаў над нашым сьвятлом і трывае ўжо дзьве тысячы гадоў. Людзі на зямлі сьвяткуюць Хрыстовае Ўваскрошаньне, як сьветлае зьдзейсьненьне сваіх найсьвяцейшых жаданьняў і прагненьняў, як сьвятло перамогі ўсяго сьветлага, радаснага й жыцьцёвага. Радуюцца ў гэты дзень і прыгнобленыя й падупалыя. Як паасобны чалавек, так цэлыя народы й дзяржавы Сьвятам Уваскрашэньня ўзмацняюцца надзеяй не лепшыя часы.

Беларускі Народ за часоў свайго гістарычнага жыцьця, як і іншыя народы сьвету, перажыў і лепшыя часы ўздыму й радасьці калі „буйным жыцьцем усё чыста кіпела, слава далёка за мора ішла”. — так і часы ўпадку й прыгнечаньня. І ўжо праз колькі вякоў бытуе ў няволі — сьпярша пад „белымі” расейскімі царамі, потым пад чырвонай бальшавіцкай тыраніяй. Але ў гэтыя жахлівыя часы заўсёды спатыкаў Вялікоднае Сьвята з хрысьціянскаю радасьцю й быў пэўны таго, што жудасьці, якімі-б яны ні былі цяжкімі, пройдуць, і прыйдзе дзень нашага ўваскрошаньня.

І ў гэтым годзе мы тут, на чужыне, як частка свайго народу, сьвяткуем Вялікі Дзень Хрыстовага Паўстаньня з мертвых. У нашыя часы людзтва



© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

ўсё выразьней падзяляецца на два супраціўныя лягеры. З аднаго боку ўсе тыя, якія ўспрыймаюць навуку Хрыстовую любові й братэрства між людзьмі, з другога матэрыялізм, які абвяшчае сваю матарыяльную „праўду", пашыраючы яе ілжой, гвалтам, паняволеньнем чалавека, як і цэлых народаў, накідаючы ім тыранічную уладу.

Мы верым, што кажны год прыбліжае нас да сьвятлейшае бдучыні. Якім-бы ні цяжкім быў наш час, але ён будзе працаваць на нашую карысьць, на карысьць лепшае будучыні, бо для гэтага працуюць шматлікія міліёны людзей.

А таму, з глыбокаю вераю ў нашае ўваскоршаньне, у нашую лепшую будучыню, мы й сяньня з чыстым сэрцам і душой, ды з верай і надзеяй прывітаемся з братамі тут, на выгнаньні, і там, на Роднай Зямлі, прарочымі словамі: **Хрыстос Уваскрос! Уваскросьне й нашая шматпакутная Маці-Беларусь!** **А.**

---

**СЬВЯТАЯ САФІЯ**

Паводля газэтных вестак, турэцкія нацыяналістыя намагаюцца, каб урад паўторна абярнуў слынны канстантынопальскі Сабор Сьвятой Сафіі ў мусульманскую сьвятыню.

Збудаваны ў 6-ым веку за імпэратара Юстыніяна Сабор быў праваслаўным хорамам да 1453-га году, калі Туркі ператварылі яго ў мячэць і назвалі Ая Сафіяй.

У 1935 годзе турэцкі урад ператварыў мячэць у музэй, якім астаецца да гэтага часу. Нацыяналістыя намагаюцца вярнуць стан, праіснаваўшы блізу 500 год, калі Сабор існаваў, як мячэць.

Барбарызмам і дзічынёю нясе як ад жаданьня турэцкіх нацыяналістых, так і становішча турэцкага ўраду ў гэтым пытаньні. Заграбленая сьвятыня, да якой усе праваслаўныя Цэрквы па ўсім сьвеце мелі вялікі рэспэкт, мусіла быць вернутая Праваслаўнай Царкве.

---

## ЗВАРОТ

**Епархіяльнае Управы БАПЦарквы да беларускага грамадзтва**

Епархіяльная Управа БАПЦарквы зварачаецца з заклікам да Беларускага грамадзтва злажыць сваю ахвяру на пакрыцьцё коштаў пастаўленага помніка на магіле сьв. пам. Архіепіскапа Васіля. Гэтым мы ўшануем Ягоную памяць, як выдатнага адраджэнца Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на Чужыне й вялікага беларускага патрыёта-незалежніка.

Епархіяльная Управа ня мае сяродкаў на аплату належнасьці за будову помніка. А таму зварачаецца з ласкаваю просьбаю да ўсіх суродзічаў, каб сваею ахвяраю дапамаглі пакрыць гэтыя кошты.

Ахвяры просім перасылаць скарбніку Епархіяльнае Управы айцу Васілю Кендышу на адрас:

Rev. Vasil Kendysh, 73 Narragansett St., Springfield, Mass. 01107

**Епархіяльная Управа БАПЦ**



# ДА 90-ГОДНЯГА ЮБІЛЕЮ ЯНКІ КУПАЛЫ Й ЯКУБА КОЛАСА

**Янка КУПАЛА**

### МАЯ НАВУКА

Мне мудрасьці кніжнай ня даў Бог пазнаці,
Мой бацька ня мог даць раскошаў такіх —
Научыўся я слоў беларускіх ад маці
І дум беларускіх бяз школы і кніг.

Ад самай красы маіх дзён невясёлых
Настаўнікам быў беларускі абшар,
Усходы палеткаў і гоманы ў сёлах
Навуку сваю мне прыносілі ў дар.

Душу акрылялі прыгожасьці сьвету,
Па гонях пад небам лунала яна,
Купалася ў сонцы вясёлкай расьпетай,
Сама, як вясёлка, як казка-вясна.

І п'яная чарамі, п'яная песьняй,
Як сон заварожаны райскіх мясьцін,
Шаптала мне дзівы цьвітучых прадвесьняў
І песьняй лілася з паходам часін.

Бурлівая рэчка і млын гутарлівы
Адмерным, раскацістым плюскатам вод
Складалі мне рытму мастацкія зьвівы,
Парадквалі складаў раскацісты ход.

Цяністыя бітага шляху прысады,
І ў вырай лятучыя гусяў шнуры
Гармонію ўводзілі ў песельным складзе,
Сачылі нязгоднай зваротак ігры.

Зялёнае поле рунеючым збожжам,
Цьвітучая ў сонечны цьвет сенажаць
Мне песьню квяцілі узорам прыгожым,
Вычулі, як словы ў вянок завіваць.

Ад шопату сьпелых пшанічных калосьсяў
Ад шэлесту лісьцяў узьмежных ігруш
Музычнае водгульле ў песьню лілося,
Зьлівалася з жальбамі скрыўджаных душ.



© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

Шум бору адвечнага казкавым сказам
Нашэптываў смутную повесьць жыцьця
І песьню ў шум-гоман захопліваў разам,
Заснуўшыя думы будзіў з забыцьця.

А сонца, скрозь сеючы іскры па сьвеце,
Мне песьню іскрыла нябесным сьвятлом,
А вецер, што ў полі рве дзёрны і сеці,
Даў волю і крыльлі лунаці арлом.

Каса, і сякера, і цэп малацьбітны
Магутную волатаў сілу далі;
Марозы і сьпёкі далі гарт нязбытны —
Мне песьню, як гром, як пярун аддалі.

Так, іншай ня знаўшы навукі і школы,
Ў пацёмках шукаў і знайшоў Божы Дар:
Цяпер маймі скарбамі — думы-саколы,
Цяпер беларускай я песьні ўладар.

---

**Я. КОЛАС**

## З ПАЭМЫ „НОВАЯ ЗЯМЛЯ"

### Уступ

Мой родны кут, як ты мне мілы!
Забыць цябе ня маю сілы!
Ня раз, утомлены дарогай,
Жыцьцём вясны маей убогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю.
О, як-бы я хацеў спачатку
Жыцьця дарогу папарадку
Прайсьці яшчэ раз, азірнуцца,
Сабраць з дарог каменьні тыя,
Што губяць сілы маладыя,
К вясьне-б маёй хацеў вярнуцца.

***

## З РАЗЬДЗЕЛУ „ВЯЛІКДЗЕНЬ"

Прышла Вялікая Сybота,
Даўно прыпынена работа,
І ўжо пад вечар сама хата
Была прылучана да сьвята:
Лагоднасьць, згода і павага
І вельмі сталая развага
Ўвесь гэты дзень тут панавалі
І блізкасьць сьвята шанавалі . . .
Алесь, Кастусь і Міхаліна —
Сама найшла на іх часіна —
На працу зранку выйшлі самі
І падмялі двор дзеркачамі,
Пясочку потым накапалі
І сьцежкі ім павысыпалі;
І гэты дворык так зьмяніўся,
Так гожа траўкай заіскрыўся,
Што проста глянуць было люба,
Хоць ты вядзі яго да шлюбу.
Мужчыны загадзя пабрылісь,
Вадою цёплаю памылісь,
Бо трэба-ж ім было сабрацца,
Ў царкву паехаць спавядацца.
Хоць і казаў Антось, бывала,
Што тут у лесе грахоў мала;
Калі-ж часамі грэх налучыць,
Аб ім забудзеш, ён ня мучыць . . .
Тымчасам ў хаце ўсё гатова,
Цяпер за бацькам толькі слова,
Бо ён у лесе прыпазьніўся
І вось цяпер яшчэ пыніўся . . .
— То будзем ехаць — я гатовы . . .
Ну, аставайцеся здаровы! —
Міхал ўсім хатнім пакланіўся
І шапку зьняў, перахрысьціўся.
Яму ў адказ дабра жадаюць,
Грахі ўсе чыста адпушчаюць.
Над ціхай талаю зямлёю
Навісла ночка той парою.
Было спакойна і лагодна,
Як-бы сама прырода тая
Паважнасьць сьвята адчувае,
З людзьмі жыве супольна, згодна.
Маўчаць хваіны, ані зыку,
Ня шэпне гэты бор-музыка,
Стаіць маўчком і разважае,
Відаць, Вялікадня чакае.
— Цяпер і страхі пазьнікалі!
На вуха Кастусю шапталі
Якіясь думкі-весялушкі:
— „Зьвяры Вялікдзень чуюць, птушкі,
І хвоі гэтыя і елі,
Ліхія людзі падабрэлі,
Бо Сьвятам Божым ўсюды вее;
З нажом разбойнік не пасьмее
Залегчы ў лесе срэдзь дарогі,
Бо і заможны, і убогі
Сьвяты Вялікаднік сьвяткуюць
І ў сваім сэрцы радасьць чуюць".
І гэту згоднасьць, радасьць сьвята
Ўва ўсім Кастусік адчувае:
І ў тым, як зь дзядзькам размаўляе,
На возе седзячы зь ім тата,
Чуваць яна ў пытаньні брата,
І ў гэтым лесе безгалосным,
І ў мерным кляцане кдалёсным.
Вось так і чуеш, што й дарога
Цяпер паслушна волі Бога . . .
Дарога з лесу выйшла ў поле;
Калёсы коцяцца паволі;
Шуршыць пясочак многазначна;
У сяле на царкві чуць абачна
Блішчыць ліхтарык і мігае,
Дарожных погляд прыцягае . . .
Вось хаты з мроку выплываюць,
Агнямі вокны ў хатах зьзяюць,
І на пясочку блескі-плямы
Прыгожа пішуцца праз рамы . . .
А царква, макаўка сьвятая,
Народу поўна, блескам зьзяе.
Сярод царкоўкі Плашчаніца
Стаіць між ёлачак зялёных.
Кабеты, дзеўкі, маладзіцы
Ідуць-плывуць да Плашчаніцы
У хустках белых і чырвоных,
Набожна хрысьцяцца, ўздыхаюць
І лбом да нізу прыпадаюць.
Направа сталыя мужчыны
Стаяць, разгладзіўшы маршчыны.
Народ калышацца, хвалюе,
Бы ў цёмным віры вада тая,
І ўсё плыве, ўсё прыбывае,
І ўлады сну ён больш ня чуе.
І блізак час сьвятой дзяньніцы.
— „Хрыстос Ўваскрос!" — з гары— званіцы
Вяшчае першы звон шчасьліва.
Народ увесь, бы ў полі ніва
Буйнымі гнецца каласамі,
Скланіўся ціха галавамі.
А пачакаўшы з паўгадзіны,
Нясуць жанкі, нясуць мужчыны
Кашы, каробкі, паўасьміны
І ставяць ўрад на цьвінтары
Ўсе Вялікодныя дары.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А новы дзень, даўно жаданы
Ужо сыпле багру на курганы,
І стрэлы-косы залатыя
На ўзгоркі кідае крутыя.
А хмаркі ў фарбах златалітых,
Ў шаўкох, агністых аксамітах,
То паасобку, то гуртамі,
То залатымі ланцужкамі,
Як-бы спыніўшысь нярухліва,
Усьмешкі кідаюць шчасьліва, —
І ім хацелася, відаць,
Сьвяты Вялікаднік вітаць.

---

## УЗНАГАРОДА ТАМАРЫ СТАГАНОВІЧ-КОЛЬБА

У нацыянальнай Акадэмічнай галерэі (у Нью Ёрку) адчынена выстаўка прац жанчын-мастачак.

Беларуская мастачка Стагановіч Тамара (Кольба) узнагароджана залатым мэдалем за надзвычай удалую зарысоўку дзікабраза. Сярод амэрыканскіх графікаў-анімалістых мала такіх, як Кольба.

Узнагароджана й графічная праца Альжбеты Сайка.



© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

## ПАМЁР ПАТРЫЯРХ МАКСІМОС

Дня 2-га студзеня 1972 году Яго Сьвятасьць Максімос V, Патрыярх Канстантынопальскі ў стане спачынку, аддаў душу Богу ў Інстанбуле, у Турэччыне.

Народжаны 26-га кастрычніка 1897 г. ў Малой Азіі, сьв. пам. Патрыярх Максімос быў рукапаложаны на сьвятара праз свайго папярэдніка на экуменічным троне Базыля III ў 1948 годзе, пасьля чаго ён займаў кіруючыя становішчы ў адміністрацыі Патрыярхіі. У веку 33 год ён быў высьвячаны на Мітрапаліта Філядэльфіі ў 1930 г. праз Патрыярха Фоцiя II, а ў 1932 г. стаў Мітрапалітам Халкедонскім. Стаўшы найбольш уплывовым Епіскапам Сьв. Сыноду пры старэчым Патрыярху Веньяміну І, пасьля сьмерці якога ён быў аднагалосна выбраны на Патрыярха, дня 20-га лютага 1946 году.

Стараючыся даць новы імпэт жыцьцю Патрыярхіі, ён сустрэў жорсткі супраціў турэцкага ўраду, быццам-бы, асабліва з прычыны ягоных прарасейскіх сымпатыяў. Гэтае „русафільства" Максімоса ўсё-ж не азначала сымпатыі да камунізму, бо ён-жа даў падтрымку расейскай дыяцэзіі ў Заходняй Эўропе, якая адмовілася пакарыцца Маскве. Расейскі Мітрапаліт Уладзімер быў пастаўлены праз Максімоса экзархам на Эўропу.

Пад прэтэкстам слабога здароўя Патрыярх Максімос быў прымушаны адрачыся ад свайго трону дня 18-га кастрычніка 1948 г. Ягонае месца заняў тады Атэнагорас І, які неадкладна запэўніў турэцкі ўрад у сваёй лаяльнасьці, а таксама цешыўся асабістай падтрымкай з боку прэзыдэнта ЗША Трумана.

Ад часу ягонага адыходу імя былога Патрыярха Максімоса рэдка чулася сярод кіруючых колаў Грэцкае Царквы. Многія, аднак, уважалі ягонае адрачэньне за вымушанае й шанавалі яго, як запраўднае сумленьне Царквы. Пра сьмерць ягоную мала дзе гаварылася й пісалася, а паховіны адбыліся ў поў-прыватнай атмасфэры.
("The Orthodox Church", Нр. 2, люты 1972, Нью-Ёрк).

# ЦАРКОЎНАЯ ХРОНІКА

## З ДЗЕЙНАСЬЦІ ПАРАФІІ ЖЫРОВІЦКАЕ БОЖАЕ МАЦІ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

Для бальшыні нашых суродзічаў ведама, што ў Кліўленьдзе апрача рэлігійнага цэнтру, які месьціцца на 25 вуліцы, існуе яшчэ й беларуска-грамадзкі асяродак „Полацак". Гэтыя абодва беларускія асяродкі складаюць як-бы адну цэласьць, у якіх у меру магчымасьці й патрэбы праводзіцца гарманійная рэлігійная і нацыянальна-грамадзкая дзейнасьць.

***

Дня 5-га сьнежня 1971 году ў царкоўнай залі адбылося сьвяткаваньне Слуцкага Збройнага Чыну. Урачыстасьцю кіравала БАЗА. Паніхіду ў суслужэньні дыякана Страпка, з ўдзелам хору пад кіравецтвам сп. Кіслага, адслужыў Уладыка Андрэй, і ён-жа прачытаў даклад на Акадэміі.

***

19-га сьнежня Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне ў Кліўленьдзе ў царкоўнай залі зладзіла лётарэю, зь якое атрыманы паважны даход.



***

Падрыхтоўка да сьвяткаваньня Калядаў пачался ўжо 2-га студзеня. Жанчыны адразу пасьля Багаслужбы заняліся чысткаю Царквы, а мужчыны здабылі і ўпрыгожылі ялінкі, як у Царкве, гэтак і ў царкоўнай залі для дзяцей, а таму як Царква, гэтак і заля адразу прынялі сьвяточны выгляд. 3-га студзеня сакратарка з рэлігійнага аддзелу шырака ведамае амэрыканскае газэты „Кліўленд Прэсс" тэлеграфічна паведаміла Кіраўніка Парафіі, што яна хоча адведаць Царкву з рэпартэрам-фатаграфам і зрабіць некалькі здымкаў, якія будуць зьмешчаны ў газэце 6-га студзеня, што й было выканана.

Гэта прывяло ў Царкву на сьвяточныя Багаслужбы шмат іншых людзей, ня з нашае парафіі. Пры поўным складзе харыстых Службы Божыя былі асабліва ўрачыстыя.

***

У сыботу ўвечары, 8-га студзеня, Парафіяльная Рада зладзіла ялінку для дзяцей. На ялінцы прысутнічаў Уладыка Андрэй. Перад пачаткам забавы Уладыка меў гутарку пра значэньне сьвята ялінкі і ўканцы зазначыў, што згодна думкі некаторых, ялінка зьяўляецца сымбалем жыцьця, вернутага нам Хрыстовым Нараджэньням. А ўпрыгожваньне ялінкі з запаленымі сьвечкамі — сымбаль духовага жыцьця, асьветленага Хрыстовым прыходам на зямлю.

Дзень 19-га лютага, дзень запускаў, беларускае грамадзтва праводзіла на адпачынковым аб'екце „Полацак" , старадаўным звычаем, ладзілі бліны з верашчанкай.

## АГУЛЬНЫ ПЕРАВЫБАРЧЫ СХОД У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

Сход адбыўся дня 5-га сакавіка сёлета ў царкоўнай залі. А гадзіне 5-ай папаўдні Уладыка Андрэй прачытаў малітву, прысьвечаную да пачатку ўсякага добрага дзеяньня.

Адчыніў Сход уступаючы Старшыня Янка Бруцкі. Рэвізійная Камісія ў складзе Карпейкі Яна й Семянчука Аўгена, спраўдзіўшы лік прысутных, апавясьціла сход правамоцным. На Старшыню Сходу быў выбраны Дунец Уладзімер, на Сакратара — Іра Каляда-Смірноў. Парадак дня быў прыняты без паправак. Справаздачу з агульнае дзейнасьці прачытаў сп. Бруцкі, Сп. Гумен здаў дакладную справаздачу касавую, Рэвізійна Камісія — з праведзенае рэвізіі касы. У дыскусіі над справаздачамі прамаўлялі: С. Карніловіч, В. Семянчук і Раковіч.

У склад новае Парафіяльнае Рады бальшнёю галасоў былі выбраныя: Калоша Кастусь — на старшыню, Стрэчань Андрэй — на заступніка, Дунец Уладзімер — на сакратара, Гумен Мікола — на скарбніка, Лукашэвіч Віктар, Каляда Клаўдзя й Пракаповіч Адам — на сяброў, Пэнда Мікола — на Царкоўнага Старасту.

У Рэвізійную Камісію: Карпейка Ян, Яраховіч Астап і Міраеўскі Аляксей.

Абрады Сходу прайшлі ў згодзе й супакоі, а таму Сход закончыўся вельмі хутка, пакідаючы ўва ўсіх добрае ўражаньне.

### ХРОНІКА З АЎСТРАЛІІ

Моладзь Парафіі Сьвят. Антона, Яна й Еўстафа ў Мэльбурне Калядньмі сьвятамі, пасьля Сьв. Літургіі, пад апекаю сястры Тамары, накіравалася адведаць нашых суродзічаў з калядньмі песьнямі ў беларускай мове.



© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

У гэтым годзе песьні калядоўшчыкаў гучэлі больш голасна, бо дапамагаў гармонік, на якім падыгрывалі Юрка з Аўгенам. Лік калядоўшчыкаў сягаў да паўтара дзесятка юнакоў і юначак, а таму для транспартацыі іх спатрэбілася аж тры самаходы. Суродзічы ў Мэльбурне вельмі міла віталі калядоўшчыкаў, ды шчодра іх узнагароджалі. Усе калядоўшчыкі былі апранены ў нацыянальную вопратку, што выклікала вельмі добрае ўражаньне. Вялікая плошча гораду ды немалы лік жыўшых у ім нашых суродзічаў выклікаў патрэбу, каб калядоўшчыкі яшчэ ў наступную нядзелю прадаўжалі калядаваць, славячы беларускімі песьнямі народжанага Хрыста-Бога. Хочацца верыць, што ў наступныя Калядныя Сьвяты наша моладзь ўчыніць тое самае, з чаго трэба цешыцца ды пажадаць для нашых юнакоў добрага посьпеху ў жыцьці.

**
*

Дня 14-студзеня (на Новы год подля старога стылю) стараньнем Парафіяльнае Рады была наладжана ялінка для дзяцей у залі на Футскрай. Сьвяты Мікалай абдарыў усіх дзяцей шматлікімі падарункамі ды марожаным з ліманадам, бо-ж у Аўстраліі ў гэтую пору было вельмі горача. Гэтым разам на гэтай забаве грала аркестра, забаўляючы прысутных беларускімі танцамі. Буфэтам кіравала с-ня Тамара. Як дарослыя, гэтак і дзеткі, лік якіх перавышаў тры дзясяткі, міла й прыемна правялі вечар і, калі надыйшла 12-ая гадзіна, ніхто ня мог паверыць, што ўжо поўнач, і кажнаму хацелася, каб гадзіны вярнуліся назад.

**
*

Як і ў папярэдніх гадох, Настаяцель беларускае Парафіі ў Мэльбурне Прат. Аляксандар наведаў дамы ў горадзе й ваколіцы з сьвятою вадою. З прыемнасьцю належыць адзначыць, што бальшыня нашых суродзічаў яшчэ добра памятаюць беларускія абрады, традыцыі й звычаі, а таму яны вельмі міла віталі ў сваіх дамох свайго Настаяцеля, ды з глыобікм пачуцьцём успрымалі выкананьне чыну пасьвячэньня дамоў. Належыць шчырая падзяка ўсім тым, хто дапамагаў Прат. а. Алксандру ў часе выкананьня гэтага рэлігійнага абавязку.

**
*

Надзеля 21-га лютага лічыцца ў Аўстраліі „Нядзеляю Эмігранта". З гэтае нагоды Настаяцель Парафіі ў Мэльбурне а. Аляксандар пасьля Багаслужбы прачытаў абежнік Міністра эміграцыі ў Аўстраліі — А. Форбэса, — у якім ён вітае Беларусаў і складае шчырыя пажаданьні ў сямейным, грамадзкім і рэлігійным жыцьці.

## ПАРАФІЯ БАПЦАРКВЫ

### Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку — Нью-Джэрзі

Мінулы год вызначыўся як год нутранога аднаўленьня Парафіяльнай Царквы. Парафіяне ў злагаднай супрацы з кіраўніком Парафіі а. Васілём дбала й папарадку выконвалі запраектваныя ў пляне працы.

Важнейшымі работамі былі — памаляваньне Царквы, збудаваньне новага Іканастасу. Іканастас запраектаваў і памастацку выканаў а. дыякан Алег Махнюк. Вялікую ахвяру на Іканастас злажылі сужэнства Павал і Ніна Кулеш. Яны падаравалі шэсьць вялікіх іконаў і малыя — эвангелістаў на Сьв. Дзьверы. Іншыя парафіяне ўспамагалі сваёю дбайнаю й ахвярнаю працаю.



Выканана пастаўленьне слупоў да брамаў на магільніку, які знаходзіцца пад апекай парафіі. У гэтым годзе мяркуецца пабудова брамаў і абгарожа магільніку; таксама поўнае аднаўленьне нутранога выгляду Царквы.

Добрая ахвярнасьць і дбаласьць парафіян пра сваю Парафію выказалася касавым прыбыткам за 10 месяцаў 1971 году ў суме 13,067 даляраў.

Нармальна працавала нядзельная школа пры Парафіі. Настаўнікамі былі: інж. Васіль Русак, выкладаў беларусаведу і Ганна Лук'янчык — настаўніца рэлігіі. У гэтым годзе наведвае школу 8 дзяцей у старэйшай групе й 10 у малодшай. Школьнікі прыймаюць удзел у ладжаных нацыянальных сьвяткаваньнях.

2-га студзеня адбыўся Агульны Перавыбарчы Сход Парафіі, на якім паўторна была перавыбраная Парафіяльная Рада ў старым складзе. Сход выказаў сваё прызнаньне й падзяку Парафіяльнай Радзе за плодную й ахвярную працу.

Парафіяне, з глыбокай верай і поўным зразуменьнем важнасьці свае роднае БАПЦарквы, добра наведваюць Божыя Службы, каб маліцьвенна выразіць сваю падзяку Ўсемагутнаму за спасыланьня ласкі й даброты. Шматлікі хор пад кіравецтвам усімі шанаванага брата Філарэта Родзькі выклікае глыбокі духовы настрой да шчырага маленьня.

**Парафіянін**



**Новы Іканастас у Царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку**



© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014

# У БЕЛАРУСКАЙ СССР

## „АТЭІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ" — ГАЛОЎНЫ КЛОПАТ КПБ

Менская „Зьвязда", ад 15. 2. 72 г., між усякіх „мераў", радаў, пастановаў, між бясконцага пустаслоўя, — паведамляе й наступнае.

„У мінулым годзе Цэнтральны Камітэт КПБ (бальш. партыя — рэд.) прыняў пастанову „аб мерах па ўзмацненьню"*) атэістычнага выхаваньня насельніцтва, у якой прадугледжана стварыць пры аддзелах прапаганды й агітацыі райкомаў і гаркомаў партыі, а дзе ёсьць неабходнасьць, і пры парткомах прамысловых прадпрыемстваў, будоўляў, калгасаў і саўгасаў — грамадзкія саветы атэістаў. Ім даручана каардынаваць дзейнасьць усіх ідэялягічных службаў „па атэістычнаму выхаваньню насельніцтва".

Ствараецца, значыць, падсобная агульнаму агітпропу, шыракаразгаліненая агітацыйная ўстанова. Калі-ж узяць на ўвагу агульны склад агітпропу, дык на гэтым ілгарным камбайне ў аднэй БССР занята блізу, а можа й цераз паўмільёну здатных да фізычнае працы людзей. Ці-ж дзіва тады, што ў саветах нехапае рабочых рук, што даводзіцца амаль штогоду купляць і есьці „капіталістычны" хлеб, бо на ленінскім працягнеш ногі, што пасланая з Амэрыкі звычайная гануча мае там высокую вартасьць?

За 50 год супрацьрэлігійнага змаганьня бальшавікі нарэшце пазналі, што: „Атэістычнае выхаваньне — справа тонкая й адказная". А кажнае выяўленьне або навет і здань рэлігійнасьці наводзіць на іх жах.

Нядаўна з жахам і абурэньнем „Учительская Газета" пісала пра канцэрт Беларускай акадэмічнай капэллы: „Гэта-ж падумаць толькі: са сцэны канцэртнай залі зусім выразна загучэла — Іжэ Херувімская. Праўда, пад кіравецтвам дырыгента Г. Р. Шырмы рэлігійны твор кампазытара Бартнянскага атрымаў сьвецкі назоў — Расьпевы".

„Учительская Газета" мае такі „бдзіцельны" нос, што вынюхала ў Расьпевах матывы Херувімскай песьні і ўзьняла алярм. Рэдакцыя газэты падала й той факт, што публіка патрабавала паўтарэньня „Расьпеваў" на біс.

І вось, пасьля адсьвяткаваньня, 24-га студзеня сёлета, 80-годняга юбілею Рыгора Шырмы, калі яго вітаў увесь партыйны „сінкліт" БССР, калі яму паднесьлі „многа прывітальных адрасоў і яшчэ больш кветак — алых гваздзік, і белых калаў, чырвоных руж", — паднесена яшчэ адна „чырвоная ружа", якая перасьмярдзіць усё папярэднае.

Ленін думаў зьнішчыць рэлігію матарыялістычным спосабам, ясьней кажучы, выгубіць сьвятарства, зруйнаваць сьвятыні — і на гэтым зрабіць канец. Крыві пралілі нямала, навет як і для бальшавікоў, але вынік атрымаўся ня той, якогаЛеніну хацелася. Цяпер штораз мацней падсавецкая прэса б'е трывогу, што царквой захапляецца моладзь. І штораз выразьней супрацьрэлігійная акцыя перайходзіць на абаронныя пазыцыі. Бальшавікі хапіліся за іншы спосаб — замест хрысьціянскіх абрадаў падсунуць абрады савецкія. Гэта такія, як — „мастацкая самадзейнасьць, пасьвячэньне ў рабочыя, сьвяты поўналецьця, урачыстая рэгістрацыя шлюбаў і нованароджаных і іншыя новыя абрады, працоўныя й рэвалюцыйныя традыцыі — усё гэта састаўныя часткі атэістычнага выхаваньня".

Аднак-жа, гэта зусім не „атэістычнае выхаваньне". Хоць-жа гэтыя савецкія абрады нагадваюць абрады паўдзікіх народаў, але, як-ні-як, гэта

*) У чужаслоўі ўзятыя дзікія для нашае мовы выслаўленьні.



© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

абрады рэлігійнага характару, і дзеля гэтага яны будуць узбуджаць рэлігійныя пачуцьці. Праца антырэлігійнага агітпропу ў гэтым кірунку будзе дзейнічаць насуперак пастаўленым бальшавіцкім мэтам. Чым больш настырліва будзе праводзіцца гвалтоўнае ўбіваньне ў людзкія галовы ленінскае веры, тым большая адваротнасьць ад яе будзе паўставаць у народзе й прыхільнасьць да веры сваіх бацькоў і дзядоў.

С-кі.

### „Карэннае пераўтварэньне"

У Менскай „Зьвязьдзе", з 9-га лютага сёлета, зьмешчана распараджаньне ЦК КП Беларусі й Савету Міністраў Беларускай ССР — „Аб мерах па далейшаму карэннаму пераўтварэньню*) сёл і вёсак Рэспублікі ў сьвятле патрабаваньняў 24 зьезда КПСС і 27 зьезда КП Беларусі".

З усіх гэтых „мераў", друк якіх займае больш чвэрці газэты, нас найбольш зацікавіла наступнае. Перадусім падаецца, што ўсё гэта будзе рабіцца для паступовае ліквідацыі адрозьненьняў між горадам і вёскай. Далей гаворыцца:

„Для наданьня выразнага выгляду жылым пасёлкам, зьніжэньня кошту будаўніцтва й добраўпарадкаваньня з улікам мясцовых умоў рэкамэндавана будаўніцтва жылых дамоў павышанай павярховасьці (да 4-5 паверхаў).

„У зонах новага індывідуальнага будаўніцтва прысядзібныя ўчасткі прадугледжваць у разьмеры ня больш чым 0,1 гектара на сям'ю. Астатнюю частку (да ўстаноўленай нормы) адводзіць за межамі жылой зоны з улікам стварэньня магчымасьцяў для мэханізаванай апрацоўкі прысядзібных участкаў.

Пабудовы для ўтрыманьня асабістай жывёлы выносіць, як правіла, за межы жылой зоны.

„Шырэй практыкаваць будаўніцтва за кошт кааператыўных сродкаў агульных пабудоў для ўтрыманьня жывёлы, якая знаходзіцца ў асабістым карыстаньні, а таксама калектыўны мэтад яе абслугоўваньня".

У гэтых выпісках, як і ўва ўсіх гэтых „мерах", разумеецца, найбольш прапагандовай лухты. Нашто трубіць пра калектыў, камунізм, сацыялізм, калі тое, што называецца калектыўнай гаспадаркай, ці там „калгасам", ніякай калектыўнай азнакі ня мае? Кажны паасобны работнік-калгасьнік, а таксама і ўсе разам узятыя, не становяць ніякай самастойнай адзінкі і ў кажнай сваёй жыцьцёвай справе ня маюць ніякага пастанаўляючага голасу. Гэта дзяржаўныя рабы. Важны факт і той, што „калгас" бяз прыватных, хоць малых гаспадарак, зь якіх калгасьнікі выжыўляюцца ды яшчэ й „любімую" партыю падкормліваюць, — існаваць ня можа. Цяперашні калгас мае той самы лад, як і даўнейшыя прыгонныя гаспадаркі. Розьніца толькі ў тым, што тады прыгонныя належалі да паасобных уласьнікаў, а цяпер належаць да дзяржавы, і дзяржава імі распараджаецца сьмялей, як даўнейшыя ўласьнікі; таксама й розьніца ў жыцьцёвых выгодах між калгасьнікамі й партыйнай кастай ня меншая, як між прыгоннымі і ўласьнікамі. Вось табе й камунізм, — кажнаму паводля патрэбы.

Адна рэч — прапагандавая лухта, а іншая рэч — наяўнасьць. Веда-

*) Трэба адцеміць, што „па далейшаму карэннаму пераўтварэньню" — гэта расейскі „блат" у беларускай мове, пабеларуску гэтыя словы ставяцца ў родным склоне, ды ня „меры", а спосабы.



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

Цана 1 даляр

## СЬВ. ПАМ. ІВАН КОШКАДАЕЎ

Нарадзіўся 20-га жнівеня 1897 году, адыйшоў у вечнасьць на 75-тым годзе жыцьця. Памёр 7-га лютага сёлета ў Кліўлендзе, там-жа й пахаваны 12-га лютага на магільніку „Рывэр Зайд Цэметары". Абрад паховінаў выканаў Ўладыка Андрэй з дыяканам М. Страпко, рэгентам Кіслым з ўдзелам хору.

ма-ж ня толькі з кнігі Гарбацэвіча, але й ад шматлікіх турыстых, што людзі мыюцца ў карытах. Больш-менш магчыма ўпарадкаваных кватэраў спатыкаецца вельмі мала. Пра вадацягі на вёсках зусім ня чуваць. І такі стан рэчы ня хутка зьменіцца, калі, наагул, зможа зьмяніцца.

Высотныя будынкі ў сельскай гаспадарцы! У такіх дробных гаспадарках, дзе ўсё будзе выконвацца пераважна рукамі й нагамі? І дзе раз-поразу трэба выходзіць і ўвайходзіць у хату. Тут то бальшавікі ўжо дагналі й перагналі Амэрыку. Да такога стану Амэрыка, бадай, не дабяжыць.

Уявіць-жа лёс гаспадыні пры гэткай арганізацыі жыльлёвай — жах падумаць. Каб дагледзець і абслужыць хату, сям'ю, жывёлу й надзелы тэй зямлі, што ўсё раскідана пасабе, ды каб-жа яшчэ й працадні выпрацаваць і прыгон адрабіць, на колькі кавалкаў ёй трэба будзе парвацца? А мужчыны маюць няшмат часу да працы на прыватнай гаспадарцы.

Паводля тых, „мераў", — маюцца наўвеце жыльлёвыя пасяленьні: вялікія месты-гарады, меншыя калгасныя гарадкі й гарадкі быдлячыя, сьвінячыя й курачыя — таксама калектыў?

## МІЛЁННЫ ЖЫХАР МЕНСКУ

Ён нарадзіўся 25 студзеня сёлета. Маці ягоная 20-цігадовая Зоя Кудзіна, родам з вёскі Карпілаўкі Чэрвенскага раёну. Бацька, Валянцін Бусько.

Невядома, колькі жыхароў было ў Менску ў час яго заснаваньня. У 12-ым стагодзьдзі, па сьцьвярджэньню вучоных, тут жыло, прыкладна, дзьве з паловаю тысячы чалавека.

У 1917 годзе ў горадзе налічвалася 134,5 тысячы. У 1941 годзе, напярэдадні вайны было 270,6 тысячы. Да 1944 году зь іх засталося 150,7 тысячы.

Штогадовы прырост насельніцтва складае, прыкладна, 40 тысяч чалавек. Кажны дзень у Менску нараджаецца ў сярэднім 50 дзяцей.

Цяпер Менск стаў адзінаццатым міліяновым горадам у СССР.

## СКАРБ ДЗЯСЯТАГА СТАГОДЗЬДЗЯ

Валун лядніковых часаў на вуліцы вёскі Ракаўцы, ссунуты бульдозерам з месца, адкрыў больш за 800 срэбраных арабскіх дырхемаў. У скарбе ёсьць манэты, якіх няма нават у багацейшых калекцыях такіх буйных сховішчаў, як Эрмітаж і Брытанскі Музэй.

PRINTED BY EAST SIDE PRESS 166 FIRST AVENUE NEW YORK, N. Y. 10009